www.nv-online.info

№ 26 (4073)

5 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Паехаў ваяваць? Пад суд!

*Учора пачала працу 9-я сесія парламента, і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў адразу ў двух чытаннях прынялі папраўкі да некаторых законаў Беларусі, якія тычацца крымінальнай адказнасці.*

Старшыня КДБ Беларусі **Валерый Вакульчык**, які выступаў перад дэпутатамі, сказаў, што гэтыя папраўкі скіраваны найперш на барацьбу з экстрэмізмам. Ён патлумачыў:

«Сёння, калі, напрыклад, узбуджана крымінальная справа супраць грамадзяніна Беларусі, які ўдзельнічае ў баявых дзеяннях ва Украіне, незалежна ад таго, на якім баку ён ваюе, яго можна пакараць толькі тады, калі суд дакажа, што гэты чалавек меў ад сваіх дзеянняў матэрыяльную карысць. То бок – калі ён атрымліваў за гэта грошы. Калі ж падсудны зможа даказаць, што ён грошай не атрымліваў, а ваяваў за ідэю, паводле дзеючых сёння законаў, пакараць яго немагчыма. А вось новая папраўка, якая ўнесена ў Крымінальны кодэкс, дае магчымасць судзіць грамадзяніна Беларусі, які ваюе дзесьці за мяжой нашай краіны на чыімсьці баку, незалежна ад матываў».

Таксама ўнесены папраўкі, якія прадугледжваюць крымінальную і адміністрацыйную адказнасць за экстрэмісцкую дзейнасць, здзяйсненне правапарушэнняў, звязаных з прадметамі паражальнага дзеяння і зробленымі з гаручых сродкаў, – так званымі «кактэйлямі Молатава». Акрамя таго, папраўкі абмяжоўваюць для грамадзян валоданне прадметамі, якія могуць быць скарыстаны ў якасці “кактэйляў Молатава”. Уведзена крымінальная адказнасць за дзеянні, звязаныя са стварэннем і фінансаваннем дзейнасці экстрэмісцкіх фарміраванняў.

Новыя папраўкі дазваляюць чыноўнікам затрымліваць экстрэмісцкую, на іх погляд, літаратуру. Раней, як патлумачыў спадар Вакульчык, на мяжы можна было затрымліваць толькі тую літаратуру, па якой ужо ёсць рашэнне суда і якая ў судовым парадку названа экстрэмісцкай. Цяпер жа памежнікі могуць затрымліваць літаратуру, не чакаючы рашэння суда альбо калі гэтыя кнігі яшчэ не ў спісе забароненых.

ЧУЛІ?

## 140 еўра ў месяц пад'ёмных уладальнікам Карты паляка

Кіраўнік камісіі Сейма Польшчы па сувязях з палякамі за мяжой **Міхал Дворчык** заявіў 4 красавіка, што прынятыя парламентам папраўкі да закона аб Карце паляка палегчаць пераезд у Польшчу грамадзянам краін СНД і Балтыі польскай нацыянальнасці.

Паводле слоў дэпутата, на падставе Карты паляка грамадзяне з гэтых краін змогуць прыязджаць у Польшчу і атрымліваць польскае грамадзянства пасля года пражывання ў краіне. На працягу першых 9 месяцаў такія асобы будуць атрымліваць штомесячную дапамогу памерам 600 злотых (140 еўра).

МУС Польшчы чакае, што на працягу 10 гадоў у Польшчу прыедуць каля 200 тысяч палякаў з краін СНД і краін Балтыі.

ПАД ГРАДУСАМ



## Май прыйшоў у красавіку

Гэты тыдзень адзначыцца карэнным пераломам у кліматычных умовах: паветраныя патокі зменяцца на паўднёва-заходнія, і з акваторыі Міжземнамор'я да нас накіруецца субтрапічнае цяпло. Сярэдняя тэмпература чакаецца на 4–8°С вышэй за норму і дасягне паказчыкаў, характэрных для сярэдзіны мая.

Ужо сёння, **5 красавіка,** пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі слабы туман. Тэмпература ноччу -1…+6°С, днём +13…+19°С. У сераду днём будзе ўвогуле +15…+20°С, па паўднёвым захадзе да +24°С. Такое ж надвор'е прагназуецца і на чацвер.

У **пятніцу і суботу 8 і 9 красавіка** месцамі, пераважна па паўночным захадзе, кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

Тэмпература ноччу +7…+13°С, 8 красавіка па паўночным усходзе +4…+6°С; днём +16…+23°С, па паўднёвым усходзе да +25°С, у паўночна-заходніх раёнах +12…+15°С.

У **нядзелю 10 красавіка** праз Беларусь будзе праходзіць больш актыўны атмасферны фронт, які прынясе ўжо на большую частку тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах – навальніцы.

Тэмпература ноччу +5…+12°С, днём +12…+19°С, па паўднёвым усходзе +20…+22°С, у крайніх заходніх раёнах каля +10°С.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Визовое соглашение почти готово

*Об этом в интервью TUT.BY заявила Андреа Викторин – глава представительства Евросоюза в Минске.*

– Хотя мы переживаем очень сложные времена, мы всерьез намерены подписать соглашение об упрощении визового режима. Разумеется, мы серьезно относимся к соображениям безопасности и рассматриваем соответствующие меры, – сказала дипломат.

Собеседница пояснила, что соглашение почти готово. Осталась всего одна загвоздка. Брюссель хочет получить от Минска подтверждения надежности дипломатических паспортов. Их владельцы смогут пользоваться безвизовым режимом.

СІМВАЛІЧНЫЯ КАДРЫ







*Паглядзіце на верхні здымак. Сярод тых, хто выйшаў на святкаванне 98-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, – шмат моладзі. І гэта сімвалічна.*

*Як сімвалічна і тое, колькі тысяч чалавек прыйшлі ў мінулую пятніцу ў царкву Пятра і Паўла на Нямізе, каб развітацца з НАРОДНЫМ ПАЭТАМ, няўрымслівым барацьбітом за Беларушчыну НІЛАМ ГІЛЕВІЧАМ. Ім, спадкаемцам волата нацыянальнай літаратуры, да голасу якога прыслухоўвалася ўся свядомая Беларусь, здзяйсняць галоўную мару Ніла Сымонавіча – вярнуцца да каранёў сваіх, дайсці, дайсці да сапраўднай Беларусі.*

(Фота NN.BY , TUT.BY)

ЗАКУЛІССЕ

Уладзімір Някляеў:

## «У Амерыцы я – Дон Жуан»

*Тры тыдні красавіка лідар ствараемага руху “За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі”, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Уладзімір Някляеў правядзе ў ЗША.*

Праграма візіту была распісана загадзя: выступленне ў некалькіх амерыканскіх універсітэтах, сустрэча з прадстаўнікамі «Беларуска-амерыканскага задзіночання” – найбуйнейшай і найстарэйшай арганізацыі мігрантаў з Беларусі ў ЗША, па запрашэнні якой гэты візіт і ладзіцца.

Адразу па прылёце – 31 сакавіка – Някляеў наведаў Дзярждэпартамент Злучаных Штатаў Амерыкі. *«ЗША сур'ёзна настроены прымусіць Лукашэнку выканаць іх умовы, у першую чаргу па правядзенні свабодных і празрыстых парламенцкіх выбараў, якія адбудуцца восенню гэтага года,* – заявіў пасля сустрэчы ў Дзярждэпе беларускі палітык. – *Мне падалося, што ЗША збіраюцца адмяніць санкцыі толькі ў выпадку, калі Лукашэнка дазволіць правесці сумленныя выбары».*

Зразумела, што ў перапынку паміж лекцыямі і сустрэчамі Уладзімір Някляеў знаёміцца з Амерыкай. Цікавыя фота ён змяшчае ў сацыяльных сетках. Так, на адным з першых Уладзімір Пракопавіч у кампаніі прыгожай незнаёмкі пад галінамі сакуры. Што за прыгажуня разам з палітыкам, які накіраваўся ў Амерыку без жонкі Вольгі?

– *Гэта перакладчыца Алеся*, – усміхаецца Уладзімір Пракопавіч. – *Яна сустракала мяне і суправаджала падчас візіту ў Дзярждэпартамент. Недалёка ад будынка дэпартамента і цвіце тая самая сакура, паглядзець на яе прууца са ўсяго свету, нават японцы. Ну і я, вядома ж, пабываў…*



Датэлефанаваліся мы да Някляева, калі ў Нью-Ёрку было 7 гадзін раніцы. Палітык толькі прачнуўся, але ўжо жартаваў:

– *Тут у Нью-Ёрку цэлы россып прыгажунь. Я ў Амерыцы – Дон Жуан. Учора, напрыклад, збіраліся ў доме Алесі Кіпель – дачкі Вітольда Кіпеля і святкавалі 98-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Там я абдымаўся і з Ірынай Красоўскай, і з Таццянай Процька, і з нашай славутай спявачкай Валянцінай Пархоменка і яе дачкой Вольгай, якая вырасла таксама прыгажуняй, і яшчэ з многімі-многімі беларускамі, якія зляцеліся з розных куткоў Амерыкі – з Філадэльфіі, Нью-Джэрсі. Беларусы ў ЗША раскіданы па розных штатах, і усе з радасцю сабраліся ў Нью-Ёрку, каб і мяне таксама пабачыць… Я на такім свяце не помню, калі быў. У 10 гадзін раніцы пачалося і да 10 гадзін вечара доўжылася. І ўвесь час нам было пра што гаварыць. Усім хораша было, цікава. На што я звярнуў увагу: сярод гасцей было многа моладзі. З аднаго боку, прыемна, што маладзее дыяспара, расце змена, бо Янку Запрудніку ўжо 90 гадоў. З другога – зразумела, што з Беларусі моладзь з'язджае…*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТАК ТРЫМАЦЬ!

Вікторыя Азаранка:

## «Мае родныя далі мне крылы!»

Пятую пазіцыю беларуская тэнісістка заняла ў абноўленым рэйтынгу WTA, дзякуючы бліскучай перамозе на турніры ў Маямі. Вікторыя ўзнялася адразу на тры прыступкі ў першай дзясятцы.

Найлепшай ракеткай свету па-ранейшаму застаецца амерыканка **Серэна Уільямс**, але яе перавага над саперніцамі паступова змяншаецца. Другое месца займае **Ангеліка Кербер** з Нямеччыны, на трэцім – **Агнешка Радваньска** з Польшчы. Чацвёртае месца, паміж Радваньскай і Азаранка, займае іспанка **Гарбін Мугуруза**.

Нагадаем, што беларуска выйграла два запар турніраў катэгорыі «Прэм'ер» у Індыян-Уэлсе і Маямі.



*«Я хачу прысвяціць гэтую перамогу сваёй сям'і, маім бацькам, якіх я бачу вельмі рэдка, але менавіта яны навучылі мяне шматлікім значным у жыцці рэчам. Яны далі мне карані, і я заўсёды ведаю, адкуль я родам. Мае родныя далі мне крылы, так што я магу лятаць. Вялікі дзякуй!»,* – эмацыянальна сказала Вікторыя пасля перамогі ў Маямі.

КАРЦІНА ДНЯ

## Беларусь губляе працаўнікоў

Сярэдняя колькасць работнікаў на беларускіх прадпрыемствах скарачаецца. Так, у прамысловасці за мінулы год стала менш работнікаў амаль на 51 тысячу, у будаўніцтве – на 16,6 тысячы. Такія дадзеныя прыводзіць Белстат.

Прычым такая карціна назіраецца некалькі апошніх гадоў. Напрыклад, у 2013 годзе на прадпрыемствах прамысловасці працавала 881 тысяча чалавек, у 2014-м – ужо на 40 тысяч менш. За мінулы год галіна яшчэ больш сышла ў мінус – адразу на 50,8 тысячы да 790.200 чалавек. Для параўнання: у 2011 годзе ў прамысловасці была занята 921 тысяча чалавек. Гэта амаль на 131 тысячу работнікаў больш, чым у 2015 годзе.

Транспартнікі за мінулы год пазбавіліся 6,3 тысячы спецыялістаў, а ў 2014-м – 3,8 тысячы. І толькі ў сельскай гаспадарцы няма такога адтоку кадраў. Нават наадварот: у 2014 годзе сярэдняспісачная колькасць у галіне скарацілася на 12,1 тысячы чалавек, а ў мінулым – усяго на 5,9 тысячы.

За мінулы год істотна «ўсохлі» і сярэднія зарплаты ў пераліку на долары: у сельскай гаспадарцы – на 141 долар (да 299 долараў), у прамысловасці – на 206 (да 436 долараў), на транспарце – на 219 (да 456 долараў), а ў будаўніцтве – на 293 (да 484 долараў).

НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ

# «Прэзідэнт-гатэль»: каму раскоша па кішэні?

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пабываў у самай фешэнебельнай гасцініцы Мінска – пяцізоркавым "Прэзідэнт-гатэлі", дзе даведаўся, колькі каштуюць нумары, мэбляй чыёй вытворчасці яны абстаўлены, а таксама знайшоў адказы на пытанні, як ажыццяўляецца кантроль за ежай, што прапануюць гасцям, і колькі каштуе тут порцыя чорнай ікры.*



*"Прэзідэнт-гатэль" быў пабудаваны ў самым цэнтры Мінска на месцы гасцініцы "Кастрычніцкая" ў 2013 годзе. Ён суседнічае з Адміністрацыяй прэзідэнта. Уваходзіць у структуру Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.*

*Гатэльны комплекс – гэта 11-павярховы гмах, у якім апроч гасцінічных нумароў, уключаючы прэзідэнцкі люкс, размясціліся басейн, спа-цэнтр, лазні, саўны, цырульня, рэстараны, канферэнц-залы.*

## Тры месяцы не есці, каб суткі пажыць у прэзідэнцкім люксе

Пачнём з нумарнога фонду гасцініцы. Усяго ў "Прэзідэнт-гатэлі" іх 154, і пры ўмове стопрацэнтнай загрузкі адначасова тут могуць пражываць больш за 300 чалавек. Праўда, пакуль пра гэта можна толькі марыць, бо сярэдняя загрузка гатэля ў мінулым годзе склала ўсяго 35 працэнтаў.

Нумар класа "стандарт" мае агульную плошчу 32–34 квадратныя метры. Яго кошт – 162 долары ў суткі (пры ўмове анлайн-бранiравання пастаялец атрымлівае зніжку ў 10%, такім чынам за сутачнае пражыванне трэба будзе заплаціць 146 долараў). У гэтую суму ўваходзіць сняданак (калі без сняданка, дык нумар будзе каштаваць 99 долараў у суткі).

Што ў самім нумары? Тут можа знаходзіцца адзін двуспальны ложак памерам 1,8 на 2 метры альбо два ложкі памерам 1,4 на 2 метры. Акрамя ложка ў нумары ёсць стол, крэсла, спадарожнікавае ТБ, сейф, платны міні-бар, шафа для адзення. Падлога ў ваннай абавязкова з падагрэвам.

Для зручнасці гасцей, якія прыязджаюць у "Прэзідэнт-гатэль" сем'ямі, у некаторых нумарах ёсць спецыяльныя дзверы, якія вядуць у нумар з суседняга пакоя.

Як паведаміў дырэктар "Прэзідэнт-гатэля" **Мікалай Падрэзенка**, мэбля, якая знаходзіцца ў нумарах, альбо беларускай, альбо турэцкай вытворчасці (як вядома, і будавала гатэль турэцкая кампанія). Халадзільнікі і тэлевізары – беларускія.

Акрамя пакояў класа "стандарт" у нумарным фондзе гатэля ёсць двухпакаёвыя нумары катэгорыі "suite" і "junior suite". Сярод пераваг гэтых нумароў – большая плошча і ванны пакоі, у якім ёсць ванна з гідрамасажам. Кошт гэтых нумароў вагаецца ад 196 да 272 долараў за суткі.

Для аматараў больш просторных нумароў "Прэзідэнт-гатэль" прапануе трохпакаёвыя апартаменты плошчай ад 108 да 140 квадратных метраў. Іх кошт – ад 408 долараў у суткі. За гэтыя грошы госць мае магчымасць адпачыць у асобнай спальні, прыняць гасцей у гасцінай, папрацаваць у асабістым кабінеце і нават прыгатаваць сабе нешта на кухні. Акрамя ўсяго, у кошт апартаментаў уваходзіць касметычная прадукцыя прэміум-класа, таксама ў пастаяльцаў ёсць магчымасць расслабіцца ў ванне з гідрамасажам, а таксама папарыцца ў інфрачырвонай саўне, якая месціцца тут жа ў нумары.



Але разынкай гатэля, безумоўна, з'яўляецца нумар павышанай камфортнасці, які месціцца пад самым дахам – на 11-м паверсе будынка. Той самы прэзідэнцкі люкс.

Кошт пражывання ў гэтых апартаментах пачынаецца ад 1530 долараў. Не, Аляксандр Лукашэнка ў ім ні разу не начаваў, але ён даспадобы тым, каму раскоша па кішэні. Заплаціўшы гэтыя грошы, вы 24 гадзіны можаце атрымліваць асалоду ад знаходжання ў фешэнебельным памяшканні плошчай 500 квадратных метраў.



Уся мэбля тут выканана па індывідуальным праекце.

Галоўны пакой нумара – гасціная, пасярод якой у атачэнні трох беласнежных канап стаіць часопісны столік. Да гасцінай прылягае працоўны кабінет, дзе, седзячы на белых крэслах, за доўгім сталом могуць весці перамовы адначасова 8–10 чалавек.

Акрамя гэтага, у "прэзідэнцкім" нумары ёсць тры прасторныя спальні з вялікімі ложкамі. Іх памер 2,4 на 2,4 метра. У кожнай спальні асобная ванная з падагрэвам падлогі, гідрамасажам, душавой кабінай з хроматэрапіяй (лячэннем святлом). Сцены кожнага з ванных пакояў аздоблены шкляной мазаікай. Акрамя таго, пастаялец прэзідэнцкага люкса мае права карыстацца касметычнымі наборамі фірмы BVLGARI.

Вядома, што ў прэзідэнцкім люксе часта спыняюцца, напрыклад, зоркі расійскай эстрады. Жылі тут і Піліп Кіркораў, і Ігар Крутой. Праўда, фанаты таго ж Кіркорава, нават ведаючы, што кумір жыве тут, шанцаў сустрэць яго ў калідорах гатэля практычны не мелі: прэзідэнцкі люкс мае свой сакрэт – ліфт прама ў нумары. На ім госць, мінуючы калідоры і лесвіцы, можа свабодна трапіць альбо прама на паркоўку, альбо ў лобі-зону для пастаяльцаў.

Каб пражыць тут адны суткі, беларусу нават пры сярэдняй зарплаце ў 500 долараў прыйдзецца працаваць больш за тры месцы пры ўмове, што ён не будзе траціць грошы ні на харчаванне, ні на кватэру, ні на што іншае. Праўда, як прызнаюцца ў гатэлі, беларусы спыняюцца тут вельмі рэдка. Можа, таму ўсе аб'явы на тэрыторыі "Прэзідэнт-гатэля" напісаны альбо на рускай, альбо на англійскай мове. Хаця, безумоўна, большасць супрацоўнікаў (а абслугоўваюць гатэль прыкладна 250 чалавек) ведаюць беларускую мову і могуць свабодна на ёй размаўляць.

## Бюджэтныя абеды і ікра па цане залатога злітка

Але "Прэзідэнт-гатэль" вядомы не толькі сваім прэзідэнцкім люксам. Яшчэ адна яго агульнавядомая адметнасць – кухня. Хто ж гатуе для гасцей самай элітнай гасцініцы Мінска, чыімі стравамі захапляюцца высокія асобы?

Стваральнікам меню, а таксама аўтарам многіх страў з'яўляецца адзін з лепшых кухараў Беларусі **Дзяніс Светаў**.

– *Афіцыйна мая пасада называецца "загадчык вытворчасці",* – раскрыў некаторыя сакрэты кухні Дзяніс Аляксандравіч. – *У мяне ў падначаленні працуе прыкладна пяцьдзясят чалавек, у тым ліку пяць шэф-кухараў. Праца на кухні "Прэзідэнт-гатэля" не спыняецца ні на секунду. Працуем нават ноччу. Менавіта начная змена адказная за прыгатаванне "шведскага сняданку". Па замове госця мы можам прыгатаваць любую страву ў любы час і падаць яе прама ў нумар.*

**– Трэба думаць, што кантроль за якасцю прадуктаў, з якіх гатуюцца стравы на вашай кухні, вельмі пільны. Вас кантралюе нейкая санітарная служба?**

*– Не нейкая, а санітарная служба Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Прычым перыядычнасць візітаў санітарных урачоў на нашу кухню не залежыць ад таго, ці адбываюцца ў гатэлі нейкія палітычныя сустрэчы-перамовы. Дарэчы, вы ведаеце, што менавіта ў "Прэзідэнт-гатэлі" збіраліся перамоўшчыкі па Украіне? Дык вось падчас такіх мерапрыемстваў па загадзе Службы бяспекі кіраўніка дзяржавы ўвесь працэс прыгатавання і падачы ежы кантралюецца санітарнымі ўрачамі. А ўвогуле, нас правяраюць не радзей аднаго разу на тыдзень. Бывае, што і часцей.*

**– Ці праўда, што для прыгатавання страў выкарыстоўваюцца прадукты выключна беларускай вытворчасці?**

*– Праўда ў тым, што пераважная колькасць прадуктаў, якія мы выкарыстоўваем, – беларускія. Як вядома, у структуру Кіраўніцтва справамі прэзідэнта ўваходзяць у тым ліку і прадпрыемствы, так скажам, харчовай спецыялізацыі. І, паверце, беларускія прадукты вельмі якасныя. Прынамсі, тыя, што трапляюць на нашу кухню. Упор мы робім на тое, каб выкарыстоўваць беларускае, бо імпарт у любым выпадку даражэй. З замежнага ў нас, безумоўна, садавіна кшталту ананасаў, апельсінаў, бананаў, частка морапрадуктаў, рыба, напрыклад нарвежскі ласось, крэветкі. Таксама з замежжа нам прывозяць некаторыя віды сыроў.*

*Хаця, паводле майго назірання, у апошні час цікавасць да імпартных і экзатычных страў у нашых гасцей меншая, чым да страў нацыянальнай беларускай кухні. Многія госці чулі пра сапраўдныя беларускія дранікі ці мачанку, але не ўсе іх каштавалі.*



**– Дзяніс, вы, будучы галоўным чалавекам на кухні "Прэзідэнт-гатэля", па службе адстойваеце беларускую кухню?**

*– Што значыць "адстойваеце"? Самі ж ведаеце, што беларуская кухня – гэта смачна. У прафесіі я кіруюся галоўным правілам: стравы павінны быць не толькі смачныя, але і даступныя. Кухня – адлюстраванне культуры нацыі. Можна, канечне, вярнуцца да часоў Радзівілаў і лавіць перапёлку, каб яе згатаваць... Беларусы ўвогуле здаўна харчаваліся дарамі лесу. На сталах нашых продкаў былі стравы так званай паляўнічай кухні. Можна і сёння распісаць нейкі рэцэпт з аленіны... Я выступаю за тое, каб стравы гатаваліся ў асноўным з тых інгрэдыентаў, якія ёсць у нашым паўсядзённым жыцці* (Дзяніс Светаў – аўтар некалькіх кулінарных кніг, якія можна заказаць у інтэрнэце ці знайсці ў беларускіх кніжных крамах. – **Аўт.**).

**– Ведаю, што ў гатэлі практыкуецца пакуль нязвыклая для многіх сістэма бранчаў. Што гэта?**

*– Увогуле само слова ўтварылася ад двух англійскіх слоў (breakfast – сняданак і lunch – абед). Дык вось бранч – гэта час прыёму ежы паміж сняданкам і абедам. У "Прэзідэнт-гатэлі" рэгулярна праводзяцца падобныя мерапрыемствы. Бранч у нас арганізуецца ў выглядзе фуршэту і, паводле нашай задумкі, павінен цікавіць людзей, якія маюць інтарэс да кулінарыі. Звычайна гэта тэматычныя мерапрыемствы. Напрыклад, у нас праходзіў бранч, прысвечаны масленічнаму тыдню, у мінулым годзе быў велікодны бранч. Наведванне такога мерапрыемства з дэгустацыяй страў (а трапіць сюды можа любы жадаючы) каштуе нядорага – ад 250.000 рублёў.*

**– А колькі страў у меню рэстаранаў, якія працуюць у "Прэзідэнт-гатэлі"?**

*– Лік ідзе на сотні, але лепш бы вам самому пагартаць меню...*

Сказана – зроблена. Для таго каб азнаёміць чытачоў з разнастайным меню "Прэзідэнт-гатэля", спатрэбіцца шмат газетнай плошчы. Таму складзём уласнае меню з дзясятка пазіцый. У рэстаране "Сталіца" "Прэзідэнт-гатэля" можна пакаштаваць:

- ікру чорную (50 грамаў) на перапёлчыных яйках з лімонам і ружовым перцам – 3.217.900 рублёў,
- карпача з цукіні (150 грамаў) – 146.200,
- рыбу дарада з гароднінай і імбірам (327 грамаў) – 386.200,
- салат з цяляцінай (220 грамаў) – 217.800,
- салат з птушкай і сырам пармезан (310 грамаў) – 127.600,
- грыбы белыя, запечаныя ў смятане, (170 грамаў) – 300.600,
- салянку мясную традыцыйную (250 грамаў) – 52.900,
- філе цяляціны на костцы з бульбай, запечанага с сырам і грыбным соусам, (430 грамаў) – 614.100,
- спагеці з соусам "Карбанара" (390 грамаў) – 191.600,
- свіную выразку на грыле (200 грамаў) – 157.800,
- марожанае шакаладнае з узбітымі вяршкамі (200 грамаў) – 86.400 рублёў.

Акрамя таго, у "Прэзідэнт-гатэлі" існуе "фітнес-меню" для тых, хто сочыць за фігурай. Вось некалькі прапаноў адтуль:

- лёгкі салат з кедравымі арэхамі (295 грамаў) – 168.900 рублёў,
- суп-пюрэ са свежага гарбуза (250 грамаў) – 82.800,
- бялковы амлет з крэветкамі (250 грамаў) – 543.400,
- свежавыціснуты грэйпфрутавы сок (100 грамаў) – 25.200.

Для тых, каму стравы асноўнага меню не па кішэні (порцыя чорнай ікры каштуе прыкладна як чатырохграмовы залаты злітак), але вельмі хочацца пакаштаваць нешта ў "Прэзідэнт-гатэлі", па буднях працуе абедзеннае меню. Кошт комплекснага абеду не перавышае 100.000 рублёў.

## Інфраструктура: за здаровы лад жыцця

Арыентуючыся на сусветныя тэндэнцыі, мінскі пяцізоркавы "Прэзідэнт-гатэль" акрамя сваёй асноўнай функцыі па рассяленні гасцей мае што прапанаваць і аматарам здаровага ладу жыцця.

Курэнне на тэрыторыі і ў нумарах "Прэзідэнт-гатэля" забаронена. Тых, хто парушае гэтае правіла, штрафуюць. Праўда, курыць не забаронена на прылеглай да гатэля тэрыторыі. На вуліцы, побач з галоўным уваходам, нават ёсць спецыяльна адведзенае для гэтага месца.

А тыя, хто прыходзіць у гатэль не пакурыць, могуць разлічваць на вялікі спектр разнастайных паслуг, звязаных з доглядам за целам і актыўнымі спартыўнымі трэніроўкамі.

Што прапануе "Прэзідэнт-гатэль"? Як прызнаецца дырэктар установы Мікалай Падрэзенка, гонарам "Прэзідэнт-гатэля" можа па праве лічыцца спа-цэнтр. Па-першае, абсталяваны ён па апошнім слове гэтай галіны, па-другое, працуюць тут сапраўдныя прафесіяналы.

Вам могуць прапанаваць некалькі спа-праграм на выбар. Кошт адной паўтарагадзіннай працэдуры са шматабяцальнай назвай «1001 ноч", падчас якой вашу скуру напітаюць саставам на аснове гліны, складае 820.000 рублёў, а вось фірмовы марскі спа-догляд для мужчын (мінералізацыя скуры на аснове марской вады) пацягне на 850.000.

Таксама працуе тут і спа-капсула для тых, каму пасля кансультацыі спецыяліста-медыка паказана тэрматэрапія. Паўгадзінны сеанс абыдзецца ў 250 тысяч рублёў, а абанемент на пяць наведванняў – у 1.286.000.

Акрамя таго, у тутэйшым спа-цэнтры наведвальнікам прапануюць цэлы комплекс працэдур па касметалогіі цела. Ёсць, напрыклад, антыцэлюлітная праграма коштам ад 680 да 800 тысяч рублёў за наведванне.

Тым жа, хто жадае пазмагацца з цэлюлітам на плавальнай дарожцы, як кажуць, карты ў рукі.

У басейн "Прэзідэнт-гатэля" можа прыйсці любы жадаючы. Нават без уласных шлёпанцаў, якія можна набыць тут жа. Разавае наведванне басейна каштуе 100.000 рублёў, а абанемент на восем візітаў з 7.00 да 16.15 – 744.000. Эканомія хоць невялікая, але ёсць. Наведванне басейна ў "Прэзідэнт-гатэлі" можна сумяшчаць з трэніроўкамі на трэнажорах і саўнай. Адзін такі сеанс працягласцю дзве з паловай гадзіны аблегчыць ваш кашалёк на 330.000 рублёў.





Зразумела, што ўсе вышэйназваныя паслугі (басейн, трэнажоры, саўны) можна замаўляць і паасобку. Як кажуць, былі б грошы...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

---

ІЗ ПЕРВЫХ УСТ

Николай МИРНЫЙ:

## «Для меня Макс – первый номер в мировом теннисе!»

*Николай Николаевич МИРНЫЙ, отец известного белорусского теннисиста, рассказал «Народной Воле» о рекордах сына.*



На днях стало известно, что **Максим Мирный** стал девятым теннисистом, выигравшим 700 матчей (!) в парном разряде. Юбилейную викторию наш соотечественник одержал на прошлой неделе во втором круге турнира серии «Мастерс», который проходил в Майами.

Кроме белоруса этот гроссмейстерский рубеж покорился канадцу **Даниэлю Нестору**, американцам **Бобу и Майку Брайанам** и **Шервуду Стюарту**, австралийцу **Тодду Вудбриджу, Марку Ноулзу** с Багамских островов, шведу **Йонасу Бьоркману** и **Леандеру Паесу** из Индии.

– Если говорить о рекордах, то на сегодняшний день Макс выиграл уже 947 матчей, ведь одиночные победы не менее важны, – говорит **Николай Николаевич МИРНЫЙ**. – А в одиночном разряде сын одержал 244 виктории. Кроме того, журналисты вспоминают о 49 выигранных турнирах, а вот, казалось бы, незабываемый турнир в Роттердаме в 2003 году почему-то забыли. Но ведь в таком случае получается юбилейное число победных турниров – 50! Обидно, конечно, но ничего…

**– Сколько Максим провел матчей за свою карьеру?**

– Сыграл примерно 1560 матчей, и с этими цифрами он также входит в десятку лучших теннисистов-профессионалов всех времен. Кстати, Макс ни разу (!) не снялся по ходу матчей! Не знаю, фиксируются ли в АТР подобные достижения, но для меня сын – первый номер в мировом теннисе. Без ложной скромности скажу, что тем, кто намерен покорять спортивные вершины, с него можно брать отличный пример.

**– В этом году Максиму исполнится 39 лет, возраст далеко не юношеский. Сохраняются ли у него еще силы для большого спорта или, возможно, уже думает повесить ракетку на гвоздь?**

– Безусловно, сыну сейчас непросто. Но мы точно знаем, что Макс занимается любимым делом и всегда хочет сделать свою работу сегодня лучше, чем вчера. Пока есть силы и здоровье, вся наша большая семья всячески помогает и поддерживает Максима в его работе.

**Алесь СИВЫЙ.**



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
9 772071 964000 16026

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 4.04.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 250 экз. Заказ № 1377